# Межы Нахабства

Спрадвечнае пытаньне: дзе праходзіць мяжа чалавечага нахабства, нарэшце вырашана. Зараз нахабства атрымала матар'яльнае ўвасабленьне. Папраўдзе кажучы, яно цалкам залежыць ад нацыянальнае прыналежнасьці, таму дасьледваць яго трэба па частках:

1. **Нахабства летувіскае.** Яно, бадай, самае бяскрыўднае, бо грунтуецца на такой лухце, што й сказаць сьмешна: Летувісы (Жмудзіны) папраўдзе лічаць, што Вялікае Княства Літоўскае – гэта й ёсьць Жмудзь, толькі павялічаная (як пад павелічальным шклом). І няўцям спадарам Жмудзінам, што між Летувісамі і Ліцьвінамі (сучаснымі Беларусамі) такая-ж розьніца, як паміж амэрыканскімі абарыгенамі і жыхарамі Пятае Авэню... Цікава, што-б зрабіў Вялікі Князь Літоўскі Вітаўт з тым невукам, які-б назваў яго Жмудзінам?

II. **Нахабства польскае.** Ня любяць зараз у Польшчы Леніна, ох як ня любяць! І помнікі ягоныя руйнуюць, і плююць на яго дарэчы і недарэчы... Але-ж менавіта ён, Вялікі Правадыр, і правёў тую мяжу польскага нахабства – ажно да горада Слуцка расшчодрыўся, каб, ахвяруючы маленькую Беларусь, выратаваць вялікую Расею...

Ня любяць у Польшчы і Сталіна. Узгадваюць яму і Катынь, і вынішчэньне польскае інтылігенцыі. Але ніхто, здаецца, не зьбіраецца аддаць назад Беларусі нашую Беласточчыну, якую Правадыр № 2 падараваў Польшчы за паслухмянасьць. Раздаюцца зараз у Польшчы галасы і пра нейкую мяжу Польшчы... за Смаленскам! І тут гістарычны нонсэнс. Бо за Смаленскам праходзіць мяжа былой Рэчы Паспалітае, якая была хаўрусам двух гаспадарстваў – Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага, а мяжа паміж імі праходзіць на Захад ад Беластоку. Але зразумець, што Рэч Паспалітая – гэта ня Польшча, спадарам ультра-палякам, папросту Богам ня дадзена.

III. Што датычыць **нахабства расейска-камуняцкага,** то яно... яно, пэўна, бязьмежнае й адлюстравана у гэрбе СССР.

***Шэры колер – этнічная Беларусь (Літва), белы колер – іншыя абшары. Суцэльная лінія – мяжа нахабства.***




*Нахабства летувіскае*




*Нахабства польскае*



*Нахабства расейска–камуняцкае*

# Твар ДэмаКРАТЫі

Аднойчы Тузік спытаў у вартавога сабакі Шарыка:

– Чаму ты раней сядзеў сабе спакойна на ланцугу, тлусты быў такі, задаволены, а зараз усе нігаеш на двары, брэшаш, схуднеў ушчэнт?

– Ох, не кажы, – адказвае той – гэта ўсё перабудова тая праклятая, што мой гаспадар распачаў. Брахаць дазволіў колькі хочаш, але-ж жэрці не дае нічога.

Гэтая показка даволі трапна адлюстроўвае глыбінную сутнасьць перабудовы, з адной, бадай, розьніцай – брахаць дазволена далёка ня ўсё і ня ўсюды, што яшчэ раз было яскрава прадэманстравана нядаўна каля будынку Менскага "гарсавету". Ня думаем, што людзі, якія сталі з плякатамі наўздоўж тратуару, уяўлялі небясьпеку для дарожнага руху. Але, напэўна, іхняя прысутнасьць выклікала ў чульлівых душах мясцовых партбосаў пачуцьцё маральнага дыскамфорту. У выніку савецкая дэмакратыя яшчэ раз паказала нам свой сапраўдны твар, каб мы не забываліся, што яна мае ня толькі дупу, якой яна звычайна павёрнутая да нас. Мусіць, страйк, праведзены менскімі транспартнікамі, прымусіць гэтую свавольную кабету да больш сьціплых паводзінаў?






### *Камуністы*

*Камуністы – гэта слова як са сталі,*
*Камуністы – гэта слова як з агню.*
*Маркс і Энгельс нам імя такое далі*
*Сто гадоў таму назад упершыню.*




Если у вас не хватает ума читать на белорусском языке, подписывайтесь на газету "Вечерний Свинск". Подписка на "Вечерний Свинск" – дело партийной совести каждого! За счет своих средств Вы внесёте свою скромную лепту в карман ГК КПБ.

# "Запісваймася ў Стукачы", –

з гэтым заклікам 9 сьнежня зьвярнулася да тэлегледачоў Беларускае тэлебачаньне. Ня гледзячы на зімовы час, у рэспубліцы адкрыты новы сэзон "паляваньня на вядзьмарак". Па тэлевізыі былі прадэманстраваны кадры, зробленыя супрацоўнікамі КГБ пад час інцэдэнту 7 лістапада каля помніка Леніну. Тэлегледачам было прапанавана паведаміць у адпаведныя інстанцыі імёны асобаў – удзельнікаў канфлікту, якіх яны пазналі. Нажаль, не былі абвешчаныя памеры грашовых узнагародаў за гэткія праявы лаяльнасьці. Цалкам верагодна, што КГБ жадае атрымаць патрэбную інфармацыю задарма. Таму, каб не дапусьціць гэткае несправядлівасьці, даводзім да ведама чытачоў, што за адно разовае паведамленьне гэтая ўстанова выплочвае 25–30 рублёў, а калі Вы "працуеце" стала, то памеры грашовых узнагародаў могуць дасягаць 50 рублёў за паведамленьне.




*Крыху ванітуе, але жэрці ўсё роўна больш няма чаго.*

# Дзёньнік Івана Іванава, Маскавіціна

**23 сьнежня 2190 году.** Сёньня мой Дзень Нараджэньня. Мне споўнілася 14 год. Бабуля, па старым звычаі, зьпякла вялікі пірог. Уся нашая радзіна сабралася за сьвяточным сталом. Прыйшоў і мой стрыечны дзед Ерафей. Ён вельмі цікавы чалавек, гэты дзед. Па-першае, ён – супрацоўнік нейкага этнаграфічнага музэя, па-другое, яму ўсяго толькі сорак год, па-трэйцяе, ён раз–пораз размаўляе на гэтай расейскай мове, якой зараз ніхто не карыстаецца, бо ёсьць усім зразумелая і больш сучасная беларуская, а па-чацьвертае, ён заве наш горад не Міскава, як усе людзі, а Масква, і кажа, што гэта яго старажытная назва. Дарэчы, усе нашыя сваякі ўважаюць дзеда Ерафея за расейскага нацыяналіста, але я не разумею, што гэта азначае.

**11 лютага 2191 году.** Сёньня ў школе быў скарочаны дзень – толькі адзін урок. Мне прыйшла да галавы дурная думка – спытаць у настаўніцы ці сапраўды наш горад называўся калісьці Масква. Яна паглядзела на мяне, як на хворага і потым паўгадзіны распавядала, што ніколі гэткай назвы не было, што заўсёды Расейскі народ імкнуўся ўзьяднацца зь Ліцьвінскім народам, што Ліцьвіны амаль 200 год таму вызвалілі нас ад камуняцкага прыгнёту, што калі б не яны, дык мы і сёньня размаўлялі бы на гэтай дзікай расейскай мове і ня ўмелі бы размаўляць прыгожа – па-беларуску, што ніколі не далучыліся б да эўрапейскае супольнасьці народаў і гэтак далей. Потым яна спытала, адкуль я гэта ўзяў, але ў гэтую-ж хвілю прагучаў званок.

**12 лютага 2191 году.** Урок літаратуры. Сяджу і, ад нуды, пішу гэты дзёньнік. Настаўніца распавядае пра клясыка ліцьвінскае літаратуры Багушэвіча. Мы яго ўжо два разы вывучалі ў малодшых клясах і я ўсё добра ведаю.

**15 лютага 2191 году.** Прыходзіў дзед Ерафей. Ён спытаў, як я вучуся. Я сказаў, што вучуся добра, а ўчора нават атрымаў "выдатна" па ліцьвінскай літаратуры. Дзед Ерафей гэта ўхваліў, а потым спытаў, што я ведаю пра літаратуру расейскую. Я адказаў, што зараз у школе нам дазволена не вывучаць расейскую літаратуру (бо сапраўды, каму яна патрэбна?) і пабег на двор.

**23 лютага 2191 году.** Бачыў на вуліцы гурток людзей; яны размаўлялі па–расейску і, што самае сьмешнае, звалі сваю гутарку не "мова", а "язык"! Яны стаялі каля ўваходу ў кінатэатр "Вільня" з плякатам, на якім было напісана: "На гэтым мейсцы да 1997 году стаяў старажытны будынак міскоўскага Крамля." Адна жанчына падыйшла да іх і спытала: "Ну, дык што з таго?", а яны адказалі, што нібыта гэты будынак зруйнавалі Беларусы. І чаго ім не сядзіцца, гэтым "сознательным"?

**24 лютага 2191 году.** Сёньня на палітынфармацыі настаўніца сказала, што актывізаваліся расейскія нацыяналісты, але журналістка Т.Паперкавіч на старонках газэты "Вечаровая Міська" дала ім жару. Потым усе ўголас чыталі гэты артыкул, але я вырашыў абавязкова спытаць у дзеда Ерафея, што гэта з нацыяналісты такія і чаго яны хочуць. Калі я прыйшоў дадому, бацька гутарыў з маці наконт таго, ці не зьмяніць нам прозьвішча "Івановы" на прозьвішча "Янкоўскія", бо на рабоце з бацькі сьмяюцца. Нарэшце было вырашана прозьвішча зьмяніць, але я сказаў, што Янкоўскім ня буду, бо ў нашай клясе ўжо ёсьць чатыры Янкоўскія.

працяг на стар.3

ЧАРНОБЫЛЬСКІ ВОЖЫК 14



# Прывід Камунізму

Сакратар гаркаму Чікінд вярнуўся да хаты позна. Быў сход ідэялягічнага актыву. Скінуў вопратку і зморана апусьціўся ў крэсла, вырашыўшы не запальваць сьвятло. Няхай адпачнуць стамлёныя вочы. Так. Галоўная справа ягонага жыцьця няспынна рухаецца наперад.

Перад закрытымі вачыма адна за адной праходзяць падзеі мінулага году. Спачатку – утварэньне зь яго, парткамфюрэра Чікінда ініцыятывы, дыскусыйнага паліткльобу "Камуніст". Гэта быў толькі пачатак. Тады ў райкамах і ў гаркаме на яго глядзелі са зьдзіўленьнем: маўляў, нічога ў цябе, хлопча, не атрымаецца, які-ж гэта дурань зараз клюне на камунізм? Але-ж глядзі ты, атрымалася. За гэтай, першай падзеяй, усплыла ў памяці наступная: вылучэньне яго дэлегатам ХХУШ зьезду КПСС. Добра, што перад гэтым была праведзеная вялікая работа. У адказ на заклік: "Коммунисты, объединяйтесь!", добрая палова членаў партарганізацыі пакінула яе шэрагі. Засталіся толькі сапраўдныя камуністы. Пасьля – новы посьпех: пачала выходзіць газэта "Мы и Время", якую стварыў ён, сьціплы і непрыкметны парторг. Маленькая жаўтаватая паперка стала ягоным дзіцём, авалодала яго думкамі, увайшла ў душу. Колькі радасных хвіляў падаравала яна! Ах, колькі было сьмеху, калі яны разам з Пумашковай палівалі брудам гэтых праклятых Беларусаў! Чорнае – гэта белае, белае – гэта чорнае. Гэтая вясёлая гульня магла доўжыцца бясконца! Няхай нефармалы ды розныя там дэмакраты злуюць, няхай сабе! Але-ж менавіта яны і набываюць і, такім чынам падтрымліваюць дарагі сэрцу "МиВ". Няхай сьмяюцца!



Няхай уважаюць за маразматыкаў і прыдуркаў; мы яшчэ паглядзім, хто будзе сьмяяцца апошнім.

І вось – адбылося! Вялікая і непераможная партыя заўважыла яго, свайго хлопа апошняга. Яшчэ ўчора ён быў маленькім віньцікам вялікае сыстэмы, а сёньня . . . Сёньня ён – другі сакратар ЦК.

Але ніхто–ніхто ня ведае таямніцу ягонага посьпеху. Чікінд задаволена ухмыльнуўся, падняўся з крэсла і ўвайшоў у суседні пакой. Там было цёмна, але ён не запаліў сьвятло. Усеўшыся за сталом, Чікінд выцягнуў з шуфляды і паклаў перад сабой наступныя рэчы: чалавечы чэрап зь дзіркай у патэліцы, кавалак сухога паліва, пакуначак зь нейкім шэрым рэчывам, томік Карла Маркса.

"Толькі я ведаю, што трэба рабіць, – думаў Чікінд, – толькі я ведаю магічную сілу заклёнаў." Ён паклаў чэрап на стол, а ў дзірку ўкінуў кавалачак сухога паліва. Чыркануўшы запалкай, былы парторг падпаліў сьпірт. Цёмныя вачніцы чэрапа злавесна зазіхацелі жаўтавата–блакітным полымем. Пакой напоўніўся міргаючым сьвятлом, а на сталі і сьценах выцягнуліся жахлівыя цені. Чікінд адкрыў томік Маркса на аднаму яму ведамай старонцы і пачаў чытаць, бязгучна, аднымі губамі паўтараючы знаёмыя словы. Пакой пачаў спакваля захінацца попельна–белым туманам. Полымя ў вачніцах чэрапа набыло крывава–чырвонае адценьне. Нарэшце Чікінд адклаў кнігу; ягоныя вочы блішчэлі і ў іх адлюстроўвалася крывавае полымя. Белы туман сьцяліўся па пакоі. Знаёмымі жэстамі Чікінд разьвязаў пакуначак і сыпануў шэрае рэчыва і палаючыя вачніцы.

У тэю-ж хвілю ўсё навокал напоўнілася стогнамі і рыпеньнем, віскам, енкам, грукатам і лямантам. Чуліся нейкія д'ябальскія мэлёдыі – ці то гімн СССР, ці то Інтэрнацыянал . . . Але па-над усім гэтым вэрхалам панаваў зычны голас парторга Чікінда: "Зьявіся, зьявіся, Прывід Камунізму!"

Ён зьявіўся ў атанчэньні чырвоных зорак. Жахлівая была ягоная постаць і я не бяруся апісаць яе.

"Ці ты мяне клічаш ізноў?" – спытаў Прывід. "Так, так, я, – адказаў Чікінд і залямантаваў, – Зрабі, зрабі мяне галоўным камуністам плянэты; скажы, на каго мне яшчэ плюнуць, каму здрадзіць, – я зраблю ўсё, што ты загадаеш. Я зраблю белае – чорным, а чорнае – белым, я буду паліваць брудам кожнага, хто назаве сябе Беларусам, я . . ."

"Аб чым гэта ты?" – спытаў Прывід. Чікінд адчуў удар па патыліцы і адкрыў вочы. Перад ім стаяла ягоная жонка.

– Гэта ты чаму ў крэсьле сьпіш? – спытала яна. – Ну, зусім з глузду зьехаў чалавек: сьвятло не запалена, у хаце цёмна, крычыць яшчэ нешта . . .

## 53. Наш Сьцяг – Ленінізм, з Ім Будуем КА – МУ – НІЗМ !

1. Ленін – наша сонца яснае.
27. Ленін навучыў і беларус зажыў.
35. **Ленінская праўда мацней за атам.**
38. Каб не ленінскія творы, мы б усе жылі ў горы.
41. Ленінскія словы збываюцца – калгасы жывуць і развіваюцца.
50. Па запаветах Леніна ў камунізм ідзем упэўненна.
56. Прытрымлівайся ленінізма – дойдзеш да камунізма.
92. Што наша партыя кажа – ўвесь свет слухае.
95. За камуністамі пойдзеш – свабоду знойдзеш.
100. Камуністы – усюды актывісты.
103. Новая Праграма ў камунізм вядзе прама.
116. Наш савецкі край лепш за богаў рай.
113. Для нашай улады мы ўсё аддаць рады.
175. Паноў і падпанкаў б'ём безустанку.
184. **Прыйшлі чырвоныя – сталі мы вясёлыя.**
215. **Калісь мы жылі, слёзы лілі, а цяпер новы час – жанчына вялікая сіла ў нас.**
220. Працуй з натхненнем баявым, каб стаў калгас передавым.
241. Не кожны дзень – працадзень.
288. Кожны трактар мае свой характар.
302. Калі хочаш, каб быў ураджай, – агратэхніку павышай.
318. Як быў цар і царыца, не радзіла пшаніца, пры ўладзе Саветаў яна корміць паўсвета.
330. **Мы калгасным ураджаем усіх ворагаў пужаем.**
343. Жыць стала лепей, жыць стала весялей.
370. **Савецкі народ і прыроду ўзяў у абарот.**
470. Калі не хочаш, каб атруціў газ, вывучай праціваргаз.
508. **У газеце, як у ленінскім дэкрэце, – усё ясна.**
528. Не глядзі на неба – няма там хлеба.
561. Была лучына, капцілка ды свяча, а зараз лямпачка Ільіча.
569. Нявеста славіцца працаднямі, а не падушкамі.
577. **Ты не лайся, дзядзя, пры Савецкай Ўладзе.**
583. Крэст – у воду, дзеўкі – ў моду.
593. Ад усёй душы фашыста душы.
823. Камуністы адчынілі затворы ў касмічныя прасторы.
858. У нас – ленінская палітыка суіснавання, а ў капіталістаў – атамнае змаганне.

*"Прыказкі і прымаўкі". Выдавецтва "Навука і тэхніка", 1976 г. Калгасны правапіс захаваны.*

*Без палітыкі*







# Новыя Прыгоды Валодзі Ульянава

Валодзя Ульянаў, як вядома, нарадзіўся у красавіку 1870 году. У школе ён вучыўся на "выдатна", слухаўся маму і тату і не вадзіў сяброўства з дрэннай кампаніяй. З самага дзяцінства яму не давала спакою думка аб тым, што нехта жыве лепш за яго. І вось у кастрычніку 1917 году, калі расейскаму мужыку захацелася нечага новага, сьветлага, узьнёслага, лепшага, то думаеце хто паказаў яму што трэба рабіць? Правільна. Спачатку ад гэтага пацярпеў інтэр'ер палацу "Зимний", потым былі і буйнейшыя ахвяры, але размова не аб іх, а аб Ім.

Пасьля, на плячох таго самага расейскага мужыка, ён панёс сьвятло "вызваленьня" ўсім народам, да якіх дацягваліся рукі, але абламаў зубы на Польшчы, дзе яму далі высьпятка ў зад.

Некаторыя яшчэ дадаюць, што ён вынайшаў лямпачку, якая зараз так і завецца – "лямпачка Ільіча", але гэта перабольшваньне. І невядома, колькі б яшчэ цудадзействаў стварыў Валодзя Ульянаў, калі-б ён не памёр у 1924 годзе. Вось за ўсё гэта і паставілі "гордому Великороссу" помнік у Менску, які стаіць там і зараз.

Вы скажаце: "Што тут новага, усё гэта мы ўжо чулі, абрыдла." Пачакайце, новае толькі пачынаецца, бо я маю ўсе падставы, каб сьцьвярджаць, што Валодзя Ўльянаў уваскрос. Нагадаем, 7 лістапада г.г. да ягонага помніка былі ўскладзеныя дары, якія ён заслужыў: шыбеніца, канцлягерная вопратка і гэтак далей. Але дары, напэўна, прыйшліся недаспадобы, бо ён паўстаў з труны і напісаў скаргу аб зьнявазе сваёй сваёй асобы. То-ж бо, відаць, было смуроду, калі ён вылазіў адтуль пасьля гэткага працяглага спачыну! Што, гэтага ня можа быць? А якім тады чынам растлумачыць тое, што неўзабаве пасьля 7 лістапада была створана урадавая камісыя, якая разглядае факт зьнявагі В.І.Леніна? Хто акрамя самога зьняважанага мог напісаць тую скаргу?

Дык вось, перад тым, як сказаць, што цудаў у СССР не бывае, паглядзіце ўважліва на помнік Валодзю Ўльянаву. Мо', ён падміргне Вам левым вокам . . .

### Ганульчына Гора

*x x x*

*Мужык чысты*
*Камуністы,*
*Сын у камсамольцах*
*Трэба сесьці*
*За стол есьці –*
*Богу не памоляцца.*
*Багоў з хаты,*
*Як вар'яты*
*Яны павыносілі, –*
*Покут голы*
*Невясёлы,*
*Як у краме ў Ёселя;*
*Ўзамен бога*
*Вунь лысога*
*Нейкага прынесьлі, –*
*Мусіць жыда*
*(Вось агіда!)*
*На сьцяне павесілі.*

*x x x*

*Кандрат Атраховіч, 1923 г.*



*...Служба идёт помаленьку, недавно ездили на полигон, так можно было стрелять с автомата, пулемёта, и гранатомёта – настрелялись вволю. А в субботу ездили на границу для того, чтобы толпу айзеров не пустить на территорию Ирана – короче, около моста через Аракс, который соединяет СССР и Иран, собралась толпа тысяч 5; они хотели перейти в Иран, а мы их не пускали; впереди стояли спецназ со считами и дубинками, по бокам – БМП, а потом мы в касках и [с] сапёрными лопатками. Стоишь и смотришь – рванут они или нет и думаешь: если рванут, то придётся ..уярить, а тут ещё замполит батальона кричит: "Солдаты! Границы родины неприкосновенны и мы должны сделать всё, чтобы они не были нарушены вплодь до применения оружия, которым является на данный момент сапёрная лопатка и вам за это ничего не будет."; вот и стоишь и думаешь – рванут они или нет, но они разошлись...*

Няма ніякага сумневу, што Беларусь – велізарная імпэрыя і паўднёвая яе мяжа праходзіць па рачулцы Аракс. Але, мабыць, аддамо усё-ж тыя абшары гэтым Азэрбайджанцам і нахай яны там самі вырашаюць, куды і навошта ім ісьці.



# Казаньне аб Сапёрнай Рыдлёўцы

Не, што ні кажыце, але правадыры нашыя КПССаўскія і ВСаўскія маюць хваравіта-пяшчотнае каханьне да сапёрнае рыдлёўкі. І сапраўды, ёсьць за што кахаць яе, дабрадзейку. Бо, як высьвятлілася пад час "кардинальной перестройки", няма больш надзейнае зброі ў вайне супроць уласнага народу. Папрацавала яна і ў Тбілісі, і яшчэ шмат дзе. Ратавала "слуг народа" ад народнае ўдзячнасьці. Здалося камусьці: час і адпачыць, працаўніца-рыдлёўка. Дык не! Як тыя амэрыканскія індзейцы, якія у знак вайны адкопваюць тамагаўкі, адкопваюць сапёрныя рыдлёўкі нашыя партбосы. Але, каб не рабіць неабгрунтаваных абвінавачваньняў, мы зьмяшчаем ніжэй вытрымку зь ліста, што даслаў нам Беларус, які зараз служыць у савецкім акупацыйным войску ў Азэрбайджане (правапіс захаваны):




Рэдакцыя набудзе фільетоны, апавяданьні, показкі і да т.п., а таксама малюнкі з разьліку 100 руб. за 1/8 ум. др. арк. Рукапісы і малюнкі дасылаюцца аўтарам пры ўмове ўкладаньня канвэрту са зваротным адрасам і маркай. Прымаюцца рукапісы толькі ў надрукаваным варыянце і малюнкі чорна–белыя, выкананыя фарматам не больш за 9 x 12 см. Умовы для аўтараў:

а) паведамленьне імя і зваротнага адрасу для перакачу грошай,

б) ганарар за рукапіс у расейскай ці беларускай савецкай мовах удвая меншы за кошт перакладу,

в) аўтарская пазнака на мялюнках.

Адрасы для карэспандэнцыі:
220040, Менск–40, а/с 276;
220124, Менск-124, а/с 82.
"Чарнобыльскі Вожык"